# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (275) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 20 МАЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## У БЕЛАРУСКІМ ЛІЦЭІ ў ГАЙНАЎЦЫ

На пытанні адказвае дырэктар Анастазія Тропак.

**— Палітэхнізацыя ў навучанні, набліжэнне школы да жыцця. Вельмі актуальнае. Цікава, як ажыццяўляецца гэта ў вашым ліцэі?**

— Палітэхнізацыяй у навучанні мы ахапілі ў асноўным усе патрабуючыя гэтага класы. Вучаніцы 8-х класаў (іх маем два) авалодваюць кравецкім майстэрствам (маем 9 швейных машын). Гэтак сама адносіцца да вучаніц старэйшых класаў пачатковай школы, што пры нашым ліцэі. Дзевятыя класы маюць урокі па хатняй гаспадарцы. Сюды ўваходзіць тэхналогія рацыянальнага харчавання, эстэтыка памяшкання і інш. Практычныя заняткі па тэхналогіі рацыянальнага харчавання праводзіцца ў кухні пры польскім Агульнаадукацыйным ліцэі. За стварэнне гэтакіх магчымасцей мы вельмі ўдзячны кіраўніцтву суседняга ліцэя.

Я вельмі цешуся супрацоўніцтвам з Прадпрыемствам машыновай прамысловасці лясніцтва ў Гайнаўцы, якое ўдалося наладзіць у бягучым навучальным годзе. Вучні дзесятага класа праходзяць тут тэорыю і практыку (на ўроках, прызначаных для гэтага) па тэхналогіі металаў, тэхнічным рысунку, бяспецы і гігіене працы і інш. Непасрэдна з боку Прадпрыемства апякуецца нашымі вучнямі інж. Кубацкі.

Заняткі ва ўспамянутым прадпрыемстве вельмі карысныя, тым больш, што вучні практычна пасля некалькіх гадзін прымаюць непасрэдны ўдзел у прадукцыі. І замест таго, каб мы плацілі за карыстанне станкоў і прылад, дык атрымалася наадварот: прадпрыемства нашай школе плаціць. Цядоўная заплата нават. Кіраўніцтва прадпрыемства стварыла магчымасць вучням нашага ліцэя карыстання са свайго лекарскага пункта. Гэта нам вельмі выгадна, бо вучні трацяць мала часу (там амаль ніколі няма чаргі).

Прадпрыемства машыновай прамысловасці лясніцтва дапамагае нам і іншымі сродкамі. Напрыклад, дае металы, трубкі і інш. рэчы, неабходныя ў нашай школьнай лабараторыі.

**— У вашым ліцэі, як вядома, амаль выключна вучыцца вясковая моладзь. Па-мойму, яна павінна мець магчымасці хаця невялікай агратэхнічнай падрыхтоўкі ў школе...**

— Так, гэта праўда. Але, на жаль, належных магчымасцей для гэтага не маем. Навязалі толькі кантакты з гарадскім агароднікам, які правёў некалькі тэарэтычна - практычных заняткаў адносна садаводства. Гавару «тэарэтычна - практычных», бо маем пры ліцэі фруктава - куставы сад, дзе адразу тэорыю прыведзена ў практыку (вясеннія працы ў садзе).

Хочам увесці ў сябе вырошчванне руж і перш за ўсё ўпрыгожыць імі школьную пляцоўку.

Калі ідзе аб палітэхнізацыю, дык яна мае ў нас шырэйшыя рамкі. Напрыклад, 30 вучняў удзельнічала ў школьным матаровым курсе і атрымала права на вядзенне матацыкла. Гэткія курсы плануем таксама і на будучыню.

**— Удзел вашага ліцэя ў веснавых урачыстасцях?**

— Вучні ліцэя прымалі ўдзел у IX агульнапольскім рэцытатарскім конкурсе. Вучаніца X класа Лена Грыц заняла I месца ў павеце. У нядаўна праведзеных школьных розыгрышах у валейбол вучні X і XI класа занялі I месца ў ваяводстве, за што ліцэй атрымаў кубак куратара Беластоцкай школьнай акругі. Гэта дало вялікую дозу спартыўнага натхнення нашай моладзі. Пасля гэтага арганізавана моцны спартыўны гурток у ліцэі.

Нашы вучні прынялі актыўны ўдзел у святкаванні Ленінскіх дзён. Школьную ўрачыстасць яны арганіза

(Працяг на стар. 5)

Кастусь ПЭТЭЛЬСКІ

## Маці

Разбудзіў яе скрып дзвярэй. Яна пазнала па дыханню, што гэта ўвайшоў яе сын, Адам. Ён перакруціў выключальнік, і хату запоўніў яркі электрычны свет.

— Чаго ж ляжыш, маці? — сказаў ён з дакорам. — Габрыня хоча ў вялікім посце паставіць кросны. Уставай, прадзі!

Паганяць яе не трэба было. Яна сама старалася, як магла, памагала сыну, у якога жыла, бо і нявестцы не было лёгка. Яна на мінуту прылягла на цёплай ляжанцы, але чалавек не без граху — трохі задрамала. Хоць і добра было на цёплай ляжанцы, але сынаў дакор яе падняў, яна ўстала, узяла калаўротак, да прасніцы якога была прывязана вялікая кудзеля клоча і, сеўшы непадалёк ляжанкі, пачала прасці.

Яна ніколі не была гультаём, і хаця ёй на Грамніцы скончылася 75 год, яна можа яшчэ працаваць. Жыццё яе ніколі не карадзіла. Малою дзяўчынкаю яна ўжо пасвіла жывёлу ў багатых гаспадароў, бо ў хаце была бяда, голад. Зарабіўшы некалькі пудоў збожжа, бульбы, зімою яна жыла з маці. Адпачываць таксама не было калі (дзень быў замалы, трэба было захапіць яшчэ добры кавалак ночы), пралі для багатых кудзелі.

Калі стала дарастаць, хадзіла ў маёнтак на заработак. Яе панскі аканом лічыў добраю работніцай. Як кажуць «работа ў яе руках гарэла». Вясковыя хлопцы паглядалі на яе, бо Бог не паскупіў ёй і прыгажосці, але пра замуж яна нават і не думала. Яна была бедная, не мела пасагу і не была нікому патрэбна. Аднойчы да яе пасватаўся ўдавец з суседняй вёскі, і хаця ён быў моцна брыдкі, яна палічыла яго за шчасце. Мужык яе быў такі самы адвечны парабак, як і яна, жыццё было цяжкае, толькі што былі яны заўзятыя да працы. Коніка старога ён меў свайго, а кароўку яна дастала ад маці. Забрала апошнюю. Памаленьку яны сабралі трохі грошай і купілі трохі зямлі. Зямля была дрэнная, пясчаная, расці нічога не хацела, трэба было гнаіць, а каб гнаіць, трэба мець больш жывёліны. І так у цяжкай працы праходзіла іх жыццё баз радасці, але і без вялікага смутку.

Вывеў яе з задумы скрып дзвярэй. Увайшла нявестка Габрыня і адразу адгукнулася на яе:

— Нашто выключыла «точку», старая? Усё табе перашкаджае.

Хоць «точкі» яна і не выключала, аднак не адказала ні слова, бачыла, што нявестка ў дрэнным настроі і шукае зачэпкі. Няхай будзе, што яна выключыла, абы было ціха ў хаце. Яна ізноў акунулася ў задуму...

Аднойчы прыехаў яе муж з лесу, перакусіў трохі і палез на печ адпачыць.

— Ой, Марыся, — пачула яна. — Штосьці са мною дрэнна, мусіць буду паміраць.

— Што ты, Яську, строіш дурныя жарты, — адказала яна, не адрываючыся ад свае работы.

І гэта былі яго апошнія словы. Памёр яе Ясько не хварэючы, без свечкі і без споведзі, пакінуўшы ёй чатырох сыноў і адну дачку. Успамінаючы гэтыя дні, слёзы градам пасыпаліся ў яе з вачэй. Паслініўшы нітку, яна прала і думала далей.

(Працяг на стар. 3)

## СВЯТА ЮНЫХ ЛЕНІНЦАЎ

ВЕСТКІ з БССР



Турысты 19 сярэдняй школы г. Віцебска на прывале.

19 мая 1962 года з піянерамі ўсёй краіны, юныя ленінцы Савецкай Беларусі ўрачыста адзначаюць 40-годдзе піянерскай арганізацыі.

Сорак год прайшло з таго часу, як у Маскве былі створаны першыя піянерскія атрады. Ля калыскі піянерскага руху стаяў У. І. Ленін. Вось чаму ў 1924 годзе піянерскай арганізацыі прысвоена імя Леніна.

З першага дня юныя ленінцы былі вернымі памочнікамі камсамола. Дапамагалі старшым выкрываць ворагаў савецкай улады , змагацца з дзіцячай беспрытульнасцю, вучылі чытаць і пісаць непісьменных. Збіралі металалом і ахоўвалі калгасны ўраджай.

А калі фашысты напалі на нашу краіну, тысячы юных ленінцаў памагалі дарослым змагацца з ворагам. Піянеры свята шануюць памяць Героя Савецкага Сюза піянера Валі Коціка, піянераў - герояў Валодзі Дубініна, Марата Казея, Колі Гой-

(Працяг на стар. 5)

# Трыбуна чытачоў

## Як карміць куранят

Выхаванне куранят можна падзяліць на тры перыяды:

1. ад вылуплення да 4 тыдняў жыцця.
2. ад 5—12 тыдняў жыцця.
3. ад 12—24 тыдняў жыцця.

У І перыядзе кураняты растуць вельмі хутка. Таму патрабуюць многа бялка, солей фосфара і вапны, вітаміну Д і А. Апрача гэтага трэба ў гэты перыяд даваць корм, у якім ёсць жалеза (шпінак). Корм у першым перыядзе павінен быць лёгкастраўны і аджыўчы.

Даецца: грэчаную кашу, раздробленае аўсянае, пшанічнае і кукурузнае зерне. З макуха, асабліва сланэчнікавага, кураня пачэрпне раслінны бялок, а з рыбнага парашку, адцягнутага кіслага малака, тварагу і маслянкі — цэнны жывёльны бялок. Трэба даваць таксама т. зв. зялёнкі — сечаную крапіву, люцэрну свежую або сечаную.

У нас часта наймалодшых куранят кормяць яйкамі. Гэта аднак абыходзіцца дорага, таму яйкі смела можна замяніць адцягнутым малаком. Калі аднак адчуваецца недахоп іншага бялковага корму, можна даваць яйкі, але толькі ў выглядзе дробнапасечанага яечнага тваражку.

У ІІ перыядзе кураняты растуць памалей, а значыць менш патрабуюць бялка. Кураня ўжо можа есці цяжэйшы корм, таму ў ежы куранят трэба паволі ўводзіць бульбу. Дробныя кашы замяніць грубей молатымі. Ад паловы ІІ перыяда пераходзіць на цэлыя зерні. Даем свежыя зялёнкі. Бялок даем у выглядзе гароху, салодкага лубіну і пшанічных вотрубей. Рыбны парашок можна замяніць парашком з крыві, або парашком, прыгатоўленым з мясных адпадкаў і касцей (толькі не падалі).

Найлепш карміць у гэты перыяд у перамешку: 2 разы ў дзень мокры корм з варанай бульбы з зелянінай і сухі корм, на вечар сумесь пшанічных азадкаў і ячменя.

У ІІІ перыяд кураняты ў далейшым звальняюць рост. Каб не прычыніцца да заўчаснай палавой сталасці, далей абмяжоўваем колькасць бялка. Таму найлепш даваць мокры корм і зерне (2 разы мокры корм, а на вечар зерне). Карміць у гэты перыяд трэба танейшым кормам. Многа бульбы, пшанічныя азадкі, сумесь ячменя і аўса.

Правільны корм куранят, асабліва на пачатку жыцця, мае вялікае значэнне ў цэлым жыцці курыцы. Няправільна кормленыя кураняты не вырастуць на добрых нясушак.

**НА СЦЭНЕ «СВЕРШЧА».**

## Гісторыя аб салдаце — бадзягу

Цікавая гэта гісторыя беднага салдата-бадзягі, які найлепш адчувае сябе, калі бывае бедным. Мучыцца, калі звязаўшыся з чортам, атрымлівае ад яго многа грошай. Мучыцца, калі як узнагароду за вылячэнне царэўны даюць яе яму за жонку. Сумуе па сваёй вёсцы, па бацьках.

У канцы бачым салдата, вызваленага ад багацця, зноў бадзягу, які ідзе «лесам, полем». Але ідзе бадзёра. Ён вольны і незалежны, хоць і бадзяга. «Гісторыю аб салдаце - бадзягу», дасканала перанесеную ў нашы ўмовы Юльянам Тувімам да музыкі Ігара Стравінскага паставіў Беластоцкі тэатр лялек «Свершч». Прадстаўленне прызначаецца для моладзі і дарослых, і варта яго паглядзець.

Рэжысёр Здзіслаў Дамброўскі, ашчадная і цікавая сцэнаграфія Соф'і Петрусінскай.

вл



## СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ ГУРТОК У НОВЫМ ЛЯЎКОВЕ

Сельскагаспадарчы гурток у Новым Ляўкове ўтварыўся вясною мінулага года. У гурток уступіла каля 30 гаспадароў. Сяляне ў Ляўкове ўсё яшчэ гаспадараць на церазпалосіцах. Усё тут нагадвае сівую мінуўшчыну: людзі сеюць з каробкі, некаторыя жнуць яшчэ сярпамі або косяць касой з каблуком, малоцяць цапамі. Аднаму гаспадару цяжка купіць нейкую сельскагаспадарчую машыну — нічога тады дзіўнага. Іменна таму ў нас сяляне пачалі ўступаць у гурток. Мінулы 1961 год быў даволі плённым — сельгасгурток шмат чаго зрабіў. Гурток змяніў жыццё сваіх членаў. Яны купілі малацільны агрэгат і рухавік. Вялікай паспяховасцю цешыліся гэтыя машыны восенню ў час малацьбы. Гуртокоўцы дапамаглі ў працы і аднаасобнікам. Кожны дзень прыносіў немалы даход. Зіма 1961—62 года была першай зімой, калі амаль ніхто не малаціў у нас цэпам. На агульным вясковым сходзе 7 красавіка г. г. нашы сельгасгуртокоўцы вырашылі купіць трактар у Гайнаўскім ПОМ-е разам з камплектам сельскагаспадарчых машын, якія неабходны і ў працы ў полі. Пасля ажыўлення спрэчак усе члены гуртка вырашылі сабраць грошы на машыны. Усе былі згодны даць па 1000 зл, рэшту атрымаць у якасці дзяржаўнай пазыкі. Машыны здабываюць сабе ўсё больш прыхільнікаў і сярод нашых гуртокоўцаў. Трактар — гэта вельмі карысная і неабходная машына сельгасгурткам.

Набліжаецца час веснавых работ у полі — час пасеваў. Паяўленне трактара на палях гуртокоўцаў будзе вялікім уражаннем на аднавяскоўцаў. Не адзін гектар зямлі не будзе ляжаць аблогам. Рэску ў гэтым напэўна выручыць трактар. Загаспадараванне аблогаў вялікую карысць прынясе ўсім. Плануецца ў нашым гуртку засеяць іх валакністымі раслінамі.

Супольнымі сіламі лягчэй набудзем машыны і ўзнімем узровень сельскагаспадарчай вытворчасці. Думаю, што запішацца зараз яшчэ некалькі асоб.

Вось добра было б ужо вясною выйсці ў поле згуртаваным сяброўскім калектывам!

Трэба выказаць вялікую падзяку аграному Мікалаю Марчуку, вясковаму солтысу Міхаілу Саевічу і старшыні ГРН Мікалаю Скепку, якія найбольш уклалі сіл у развіццё супольнай гаспадаркі ў Ляўкове.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## Урачыстасць дзяўчат у белі



Сцяг у руках дзяўчат у белі, сцяг грамадскай сувязі школы з працоўнымі Беласточчыны.

Пад гэтым сцягам пасля яго атрымання дзяўчаты прайшлі вуліцамі Беластока, а на Першамай пад ім дэфілявалі ў паходзе.

Прыемная і хвалюючая ўрачыстасць адбылася 29.IV. у канферэнцыйнай зале Прэз. ВРН. Асабліва памятная для дзяўчат у белі — будучых медсясцёр, цяперашніх вучаніц школы медсясцёр ім. Э. Савіцкай у Беластоку. Была гэта ўрачыстасць перадання сцяга для школы ад грамадскасці Беласточчыны. Прыгожы, маестатычны, вышываны золатам сцяг з лозунгам «Ведамі і працай служым здароўю чалавека».

«Лозунг на сцягу няхай указвае вам дарогу ў жыцці», — сказала дырэктар школы Ірэна Шаркоўская, перадаючы сцяг у рукі вучаніц.

*

Беластоцкая школа медсясцёр існуе ўжо 12-ы год і выпусціла 700 высокакваліфікаваных медсясцёр. Большасць з іх працуе ў нашым ваяводстве. 99% вучаніц школы — гэта дзяўчаты з па-за Беластока, значыць пераважна дзяўчаты з вёсак.

вл.

Фота: **А. Здрадоўскі**

## ДОБРААХВОТНАЯ ПАЖАРНАЯ КАМАНДА

Нядаўна ў Старой Луплянцы была сарганізавана Добраахвотная пажарная каманда, у члены якой запісалася 20 асоб. Прэзэсам пажарнай каманды з'яўляецца Міхась Нос, начальнікам — Аляксей Салавей, сакратаром — Ян Салавей, скарбнікам — Віктар Грыц.

Пажарная каманда мае двух механікаў да мотапомпы. У гэтым квартале каманда атрымае яшчэ адну мотапомпу. Начальнік часта арганізуе сходы, на якіх вывучаюць статут пажарнай каманды, а таксама праводзяцца даклады на іншыя тэмы.

**Мікалай**
Луплянка Старая

## НОВЫ ГУРТОК НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Вёска Мора ляжыць на ўскраіне Гайнаўскага павета. У адлегласці 300—400 метраў ад Мора знаходзіцца вёска Крывятычы. Паміж гэтымі вёскамі пабудавалі новую, вельмі прыгожую, мураваную школу — школу Тысячагоддзя. Вечарамі ў гэтай школе адбываюцца курсы для дарослых, а ў наступным навучальным годзе будзе сельскагаспадарчая вечаровая школа.

І вось у гэтай школе адбыўся сход моладзі і старэйшых. Пасля рэферата аб жыцці і заданнях БГКТ прыступілі да выпаўнення дэкларацый. У гурток запісалася 42 асобы. Потым выбралі праўленне гуртка, у склад якога ўвайшлі: Ільля Рагоза — старшыня, Анатоль Сачко — намеснік, Яўгенія Баравік — сакратар, Янка Бобік — скарбнік, Зіна Бобік і Тодар Роля — членамі. Праўленню гуртка аддана камплект п'ес. Гурток у будучыні разгорне працу, у чым яму дапамогуць мясцовыя настаўнікі.

**Васіль Дзун**




**Праграма**
**ад 21—27.V.1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Dzień ostatni dzień pierwszy", (radz.) 22—24. V.
„Mezalians" (węgierski), 25.—27. V.

**Кляшчэлі**
„Wzgórze 905" (jugosł.), 22—24. V.
„Wyrok" (polski), 25—27. V.

**Навасады**
„Nafta" (polski), 26—27. V.

**Нараў**
„Chleb i róże" (radz.), 23—27 V.

**Нараўка**
„Światło na biegunie" (radz.), 23—27. V.

**Чаромуха**
„W środku nocy" (USA), 22—24. V.
„Dotknięcie nocy" (polski), 25—27. V.

**Чыжы**
„Droga na Zachód" (polski), 23—27. V.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Szukam ojca" (radz.), 23—27 V.

**Бранск**
„Profesorek" (franc.), 22—24. V.
„Jewdokia" (radz.), 25—27. V.

**Гродзіск**
„O moim przyjacielu" (radz.), 26—27. V.

**Орля**
„Liga dżentelmenów" (angl.), 23—27. V.

**Райск**
„Aktorka księcia pana" (radz.), 23—27. V.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Liga dżentelmenów (angl.), 22—24. V.

**Міхалова**
„Wyższa zasada" (czeski), 22—24. V.
„SOS Titanic" (angl.), 25—27. V.

**Супрасль**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 21—24. V.
„Tajemnica szyfru" (rumuński), 25—27. V.

**Чорна Весь**
„Szalona Barbara" (czeskiej), 22—24. V.
„Szybsza od wiatru" (radz.), 25—27. V.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Wiatr ucichł przed świtem", 22—24. V.
„SOS Titanic" (angl.), 25—27. V.

**Мілейчыцы**
„Tajemnicza puderniczka" (radz.), 22—24. V.
„Porucznik Marynin" (radz.), 25—27. V.

**Нурэц**
„Kongo walczy" (radz.), 22—24. V.
„Zuzanna i chłopey", 25—27. V.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Przygody Buratino" (radz.), 22—24. V.
„Kwiecień" (polski), 25—27. V.

**Сухаволя**
„Towarzysze broni" (franc.), 22—24. V.
„Zaduszki" (polski), 25—27. V.

**Шудзялава**
„Odwiedziny prezydenta" (polski), 23—27. V.

**Янаў**
„Wielki balet w Ameryce" (radz.), 22—27. V.
„O moim przyjacielu" (radz.), 25—27. V.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Normandia — Niemen" (radz.,) 26—27. V.

**Новы Двор**
„Sprawa trzynastu" (radz.), 26—27. V.

**Ружаны Сток**
„Bunt kapitana" (czeski), 26—27. V.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Białk F-1

# КУР'ЁЗЫ

Грэчаскі карэспандэнт паведаміў у закрытым пісьме свaёй рэдакцыі ў Афіны, што ён мог бы шмат напісаць з Нью-Йорка, дзе ён знаходзіцца, але пазбаўлены магчымасці гэтага зрабіць, таму што падазрывае амерыканскую цэнзуру ў тым, што яе супрацоўнікі адкрываюць пісьмы. На наступны дзень, пасля таго як гэтае пісьмо было адпраўлена, да грэчаскага карэспандэнта з'явіўся прадстаўнік амерыканскай цэн-

## СВАБОДА СЛОВА

зуры, які ў вельмі ветлівай форме заявіў яму:

— Дарма, пане карэспандэнт, вы падазрываеце амерыканскую цэнзуру. Я спецыяльна прыслан да вас, каб паведаміць аб правіцы амерыканскай цэнзуры, якая, як і ўсе дзяржаўныя ўстановы, падпарадкоўваецца агульным законам свабоды слова і свабоды друку. Вы можаце пісаць, што вам захочацца, і быць упэўненым, што ў нас ніхто не зазірае ў чужыя пісьмы.

## Гумар сатыра

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

Дарагая «Ніва»! Я вельмі хачу, каб была ў якім-небудзь нумары змешчана песня «Валжанка».

**Анна Блыш**
Глежнова, Кашалінскае ваяводства

### ВАЛЖАНКА

Словы А. Прышэльца Музыка Ю. Сланова

Над водой березки-елки,
Дым рыбацкого костра.
Хороши весной на Волге
Золотые вечера!

На закате тучки тают,
Тучки — розовые сплошь.
Вся от солнца золотая,
Ты на лодочке плывешь.

Если б в шутку ты спросила,
Я ответил бы всерьёз,
Что на свете нет красивей
Золотых твоих волос!

Целый день я их не вижу,
Ты пойми да пожалей.
Хоть теперь-то выходи же
Ты на берег поскорей!

Загляну в глаза волжанке,
Нежным словом назову.
Под березкой на полянке
Сядем рядом на траву.

Соловей запел, защелкал.
Прислонись к моей груди...
Ой, ты, ноченька над Волгой,
Подожди — не проходи!




### ЧАМУ

Кацярына вельмі зайздросна. Рашыўшы выпрабаваць вернасць свайго мужа, пытае яго:

— Калі б я памерла, ажаніўся б ты з Соняй?

— Не.

— Чаму? Яна ж вельмі падобна да мяне!

— Вось, менавіта, таму, — адказаў муж.

Прыслала **Ірына Кур'яновіч**

### АБЖОРА

Абжора так наеўся ў свайго сябра, што прыйшоў дамоў і ўпаў на зямлю. Жывот у яго раздула, як барабан. Прыбег сусед, пытае:

— Што з табою?

— І не кажы! Быў у сябра на абедзе, ды пераеў

— Затое на другі раз будзеш памятаць, — смяецца сусед, — абед чужы, а жывот свой!

Прыслаў **Анатоль Таранта**

### ПАЛЕЧЫЎ

Да лекара, які кудысьці спяшаўся, зайшла жанчына.

— Жывот...

— А, жывот? Добра. Піце! — падае ён касторкі

— Ды пане доктар...

— Піце.

Жанчына выпіла

— Бывайце, — развітваецца доктар.

— А ад жывата? — спыняе яго жанчына.

— Як ад жывата? Я ж ужо даў!

— Ды не мне, пане доктар, жывот у дачкі баліць.

Прыслаў **Іван Карчэўскі**



ВАСІЛЬ МАЕЎСКІ

## ДАРМАЕДЫ

(Фельетоны - мініяцюры)

### ГУЛЬТАЙ

— За працу! — і на левы бок,
Бо правы змуліў лежабок.
І сніць: далі к абеду сёння
Не лыжку ў рукі — апалонік.

### АШУКАНЕЦ

— Патрэбен план? А ўзяць жа скуль? —
Прыставіў к лічбе справа нуль.
Галоўнае ў ягонай працы
Змагчы умела адчытацца.

### КРУЧКАТВОР

— Працую! Хоць і крыху хворы! —
Растуць штодня інструкцый горы,
І плешча мора дырэктыў...
Нібы без іх бы й свет не жыў.

### КАР'ЕРЫСТ

— За справу! — і прымае меры
Дзеля ўласнае кар'еры:
Таго узнёс аж да нябёс,
На гэтага зрабіў данос.

### ЗУБ МУДРАСЦІ

— Бабуля, цётка кажа, што ў яе баліць зуб мудрасці. А ў мяне ёсць такі зуб?

— Не, няма. У цябе вырастуць зубы мудрасці, як пойдзеш у армію.

— А цётка ўжо служыла ў арміі?

— Не, жанчын у армію не бяруць.

— Дык навошта ж ёй былі патрэбны зубы мудрасці?

Прыслаў **Саша Маркевіч**



— Як лекар, раю вам поўную дыету.

Бачачы, як Кастусь рыхтуе візітны касцюм, белую сарочку і чорны гальштук, у мяне абудзілася трывога.

На маё пытанне, куды гэта ён рыхтуецца, Кастусь прыжмурыўшы вока, адказаў: — Збіраюся на вяселле. У гэты ўрачысты дзень нашага жыцця, — дадаў ён, — чалавек заўсёды выглядае лепш, чым з'яўляецца ў рэчаіснасці.

Ад падобнай нечаканасці ў маёй галаве загудзела, бы ў званіцы. Прыйшоўшы ў сябе, пытаю:

— Ці можна пацікавіцца анкетнымі звесткамі аб маладой?

— Прыгажосцю не вызначаецца, — адказвае Кастусь, — фігурай не вылучаецца, але сэрца мае залатое.

— Ці можна даведацца адрас шчаслівіцы? — пытаю.

Кастусь падае адрас і кажа: — Шлюб а шостай вечарам.

Затым ён пачаў наводзіць глянц на туфлях і, вымахваючы шчоткай, замурлыкаў: «Апошні сённяшні дзянёчак....»

Ведаючы ўпартасць Кастуся, я хутчэй накіраваўся да маладой, маючы надзею прадухіліць вяселле.

У хаце маладой быў рух, бы на вакзале. Людзі ўваходзілі з нейкімі пакетамі, спяшаліся, выходзілі, а маладая, абыякава да ўсяго гэтага, у вуглавым пакоі перад люстрам падсмажвала шчыпцамі фальшывыя локаны

— Выбачайце, што перашкаджаю, але я вельмі хацеў бы пагаварыць з вамі, — кажу маладой.

Яна, павярнуўшы да мяне казліны профіль з выпуклым вокам, адзываецца ветліва:

— Сядайце на чым стаіце. Кастусь мне аб вас расказваў.

— Вы беспаваротна вырашылі ашчасліваць кандыдата на мужа? — пытаю.

— Угу, — мычыць гэтая каза, не вымаючы з губ шпілек, затым, усадзіўшы іх у валасы, тлумачыць: — іншая аказія не трапляецца. А вы маеце лепшую прапанову?

Не адказваючы на пытанне, мяняю тактыку і кажу:

## ВЯСЕЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

— Малады нікуды не варты чалавек, п'яніца, карцёжнік, бабнік і час ад часу находзіць на яго вар'яцтва.

— Нічога, я з яго дур выб'ю, — упэўнена абяцае маладая.

— Апрача гэтага ваш кандыдат хворы венерычнай хваробай, — дадаю.

— Вось і добра! — радасна ўсклікае маладая. — Будзем лячыцца разам.

— Гэта не ўсё, ён мае крымінальную справу і неўзабаве схавaюць мілага за краткі, — выкладваю апошні аргумент.

— Значыць у шлюбным жыцці перадышка будзе, — згаджаецца маладая. Затым дадае: — Турма не аднаго перавыхавала.

Бачу, рабіць тут няма чаго і паварочваю аглоблі да Кастуся.

Кастусь якраз выходзіў з хаты, спяшаючы на вяселле.

— Ну і маладая, з гэтакай шлюб — катаржнае пакаранне, — кажу яму.

— Значыць не спадабалася, — зрабіў вывад Кастусь і дадаў: — гэта не бяда, ты ж з ёй не жэнішся.

— Шкада цябе, — прызнаюся з сумам.

— Як-небудзь некалькі гадзін вытрымаю, — запэўняе Кастусь.

— Як гэта разумець? На ўсё жыццё звязваешся з гэтай бабай, — гавару са слязьмі ў горле.

— Я не звязваюся, я толькі шаферам на гэтым вяселлі, — адказвае Кастусь, развітваючыся са мной.

«Вось дык недаразуменне» — думаю і ў душы цешуся, што гэтым разам шлюбныя вузлы мінулі Кастуся.

Вярнуўся Кастусь на світанні. Быў падпіты і з шумам сцягваў вопратку. Прыкмеціўшы, што я прачнуўся, ён сказаў:

— Ты гэтага... як яго... што нагаварыў аб маладым? Ён паабяцаў пры першай сустрэчы адлупцаваць цябе на адбіўную катлету.

Сон знік з маіх вачэй беззваротна. Людзі добрыя, вось і паспрабуйце пасля гэтага памагаць прыяцелям.

Дзядзька Лявон